цыональнай сьвядомасьцю, катарая ўсё болей шырыцца ў нашым народзі,—будзе станавіць цэмэнт, які узмацуе еднасць дзевяці мільёнаў беларусоў. Унія — гэта для беларусоў такая-ж нацыональная вера, як і для украінцоў. Якіе вялікіе услугі аказвало і аказвае уніяцкае духавенство са сваім мітрапалітам, Андрэем Шэптыцкім, украінскай справе ў Галічыне, — вядома ўсім. І мы верым, што, вярнуўшыся на Беларусь, яна адыграе тут сваю гістарычную міссію

*Стары Міньчук.*

## Беларускі Вучыцельскі Саюз.

Група беларускіх вучыцелёў у Вільні пастанавіла прыступіць да організаціі Беларускага Вучыцельскага Саюза, каб злучыць у адно раскіданых па ўсей зямлі Беларускай таварышоў працы. Апрацован ужо праект статута Саюза, каторы установўмі падаецца мейсцовай уласьці дзеля зацьверджэньня.

Дзеля знаёмства ўсіх беларускіх вучыцелёў з мэтамі і задачамі ладжэнага Саюза даем тут праект статута цэлком:

**Статут Беларускага Вучыцельскага Саюза.**

§ 1. Мэта Саюза: працаваць дзеля культурнага і матэр'яльнага падняцьця беларускіх вучыцелек і вучыцелёў і бараніць іх прафэсыональные інтэрэсы.

§ 2. У мысль гэтага Саюз

a) організуе навуковые гутаркі, рэфэраты, лекціі, пэрыодычные курсы, краёзнаўчые экскурсіі, ладзіць бібліотэкі, пэдагогічные выстаўкі, выдавецтва і т. п.

b) стараецца дайсьці для вучыцелёў і вучыцелек варункоў, працы, каторые далібы магчымасць у поўнай меры здаволіваць іх духовые і матэр'яльные патрэбы.

c) у часі хваробы і безрабоцьця выдае сваім членам і іх сем'ям падмогу грашмі і безпрацэнтные пазыкі; памагае знайсьці работу; дае лекарскую і праўную помач; памагае ў выхаваньні дзяцей членоў; у прыпадку сьмерці членоў выдае падмогу на пахароны і апекуецца сем'ямі; апекуецца членамі у прыпадку утраты здольнасьці да працы.

§ 3 Саюз складаецца с членоў чынных і пачэсных. Членам чынным можэ быць кожная беларуская вучыцелька і вучыцель. Членоў чынных прыннмае урад Саюза па рэкомэндаціі двох членоў Саюза.

Пачэсных членоў выбірае агульны сход членоў Саюза с-паміж людзей, аказаўшых чы аказваючых помач Саюзу і мэтам яго.

§ 4. Фундуш Саюза складаецца:

a) з аднаразовай платы 2 мар. і і месячных складак па 1 м.

Увага. У часі безрабоцьця і хваробы члены Саюза звальняюцца ад месячнай складкі.
Плата ўступная можэ быць разложэна урадам на раты.

b) з узносаў пачэсных членоў.

c) с прыватных ахвяр, спадчын і т. п.

d) з даходаў з дабрачынных прэдпрыемств Саюза.

§ 5. Парадак і варункі выдачы падмогі устанаўлівае агульны сход у інструкціі ураду. Урад пастанаўляе патрэбу выдачы помачы ў кожным прыпадку.

§ 6. Дзеля помачы у здабыцьці працы членам Саюза урад збірае ведамасьці аб вольных мейсцах або організуе спэцыяльнае пасрэдніцкае бюро паводлуг інструкціі агульнаго сходу.

§ 7. Усімі справамі Саюза кіруе агульны сход і выбраны апошнім урад.

§ 8. Агульны сход бывае: гадавы і экстрэнны.

Гадавы сход адбываецца раз у год дзеля выбару ураду і рэвізыйнай камісіі, выслуханьня справоздачы ураду за мінулый год і апрацаваньня пляну работы і сьметы на чародны год.

Экстрэнны сход склікаецца урадам паводлуг патрэбы. Права ініцыятывы сазыву мае чацьвёртая часць усяго числа членоў.

Агульны сход лічыцца правамоцным, калі на ім будзе ня менш чацьвёртай часьці членоў.

§ 9. Урад саюза выбіраецца агульным сходам на 1 год і складаецца с 5 членоў і 2 кандыдатоў. У тым ліку: маршалак, намесьнік яго, скарбнік і пісар. Пісар за сваю працу можэ атрымліваць плату. Дзеля спэцыяльных спраў урад мае права організаваць камісіі.

Урад пастаянна знаходзіцца ў Вільні.

§ 10. Рэвізыйная камісія выбіраецца агульным сходам на 1 год с 3 членоў і 2 кандыдатоў.

Рэвізыйная камісія рэвізуе чыннасьці ураду паводлуг загаду агульнага сходу, сваей ініцыятывы, або абасновакай заявы на пісьме ня менш, як 10 членоў Саюза.

§ 11. Аб усім, што ў гэтым статуце не пакаэано, пастанаўляе агульны сход.

## Трэйці курс у Сьвіслочскай Сэмінарыі.

1 верасьня пачынаецца трэйці курс у Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі у Сьвіслочы. Першые два курсы разам з дадатковым летнім курсам далі каля пяцідзесяці вучыцелёў і вучыцелек, каторые ўжо маюць свае школы або будуць мець с пачаткам вучэньня у восені. Але гэтаго мала: каб правільна наладзіць беларускую школьную сець, патрэбны не дзесяткі, а сотні беларускіх вучыцелёў,—і гэту патрэбу павінна здаволіць Сьвіслочская Сэмінарыя.

Трэйці курс будзе трываць чатыры месяцы—да канца 1917 году. Варункі прыёму курсістоў—тые-ж, як і на першые два: курсісты і курсісткі павінны мець сьведоцтво прынамсі з аканчаньня народнай школы. У Сэмінарыі ім даецца кватэра і поўнае утрыманьне, але яны павінны мець сваю пасьцель, бялізну і ўсе патрэбные дробные рэчы штодзеннаго ужытку. Плата за утрыманьне разам з навукай—усяго 43 маркі ў месяц.

С прычыны таго, што атрыманьне пазваленьня на выезд вымагае шмат часу, ахвотнікі і ахвотніцы ехаць на курсы павінны чым хутчэй заявіць аб гэтым Schulinspektor'у у Сьвіслачы праз свой Kreisamt.

## У Вільні і ваколіцах.

× **Янка Купала** ў нямецкай мове. У газэці «Wiln. Z'g.», сьледам за пераклядам верша Коласа „Першы гром“, памешчэн у № 221 с 14.VIII.1917 пераклад верша Янкі Купалы „Родная мова“.

Пераклад зрабіў прафэсар у Вроцлаве д-р Рудольф Абіхт, а ў пекную вершаваную форму, блізкую да орыгіналу, прыбраў вядомы нямецкі паэт Фрыц-Эрнст Бэттауэр.

× **35-летні юбілей працы.** 1 (14) жніўня мінуло 35 гадоў працы Юстына Конопацкаго у пажарніцкай камандзе. Паступіў ён на службу пажарнікам у Пецярбурзе яшчэ ў 1882 гаду, маючы 17 гадоў. і 30 гадоў шчыра спаўняў тамака сваю цяжкую і небясьпечную чыннасць.

Ужо цераз два гады пасьля паступленьня ў пажарніку яго за стараннасць назначылі за старшаго памочніка машыніста пры паравой машыне! а пасьля—за малодшаго і старшаго унтэр-афіцэра. За час трыдцацілетняй працы ў Пецярбурзі ён атрымаў у награду 2 залатые медалі, 1 вялікую срэбную, 3 малые срэбные, 1 кітайскую срэбную, ды 2 срэбные гадзіннікі.

У пачатку 1913 году віленскі брандмэйстэр Родовіч запрасіў Юстына Конопацкаго да сябе на службу і назначыў за вахмістра ў новаадкрытым ноўгародзкім аддзелі. С таго часу вахмістр Конопацкі працуе безупынна ў Вільні.

Конопацкі радзіўся ў вёсцы Бічуны, Ковенскай губ., Нова-Александр. павету. Пад той час многа літвіноў ехало з родных вёсак на службу ў вялікшые расейскіе гарады, і там, між чужымі, адарваные ад роднай вёскі, яны часта забываліся свайго языка. С Конопацкім гэтаго не здарылося: ён і цяпер любіць сваю бацькаўшчыну, добра і ахвотне гаворыць па літоўску,—і сьмела можэм паставіць яго за прыклад для «тутэйшых» перакулыщчыкоў з беларусоў і літвіноў, каторые забываюцца роднай мовы, жывучы ў родным краю, між сваімі.

× **Выплата „пайка“** бедным сем'ям, члены каторых знаходзяцца на вайне, за месяц ліпень будзе адбывацца у III аддзелі ураду апекі над беднымі пры нямецкім Stadthauptmann'е, Домініканская 2, пакой 143, ад 8 да 12 гадз. раніцай і ад 4 да 7 паабедзі ў гэткіе дні:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Для 4 | цыркулу | — | 18, 20 і 21 | жніўня. |
| „ 6 | „ | — | 22 | „ |
| „ 7 | „ | — | 23 | „ |
| „ 8 | „ | — | 24 і 25 | „ |
| „ 1 | „ | — | 27 | „ |
| „ 5 | „ | — | 28 і 29 | „ |
| „ 3 | „ | — | 30 | „ |
| „ 2 | „ | — | 31 | „ |

Асобы, каторые ў назначэным часі ня возьмуць падмогі, павінны звертацца 1 і 3 верасьня ў гадзінах чыннасьці кассы.

Пасьля 3 верасьня «пайка» за ліпень выдаваць ня будуць.

# Духоўные песьні.

### О мой Божэ!

О мой Божэ! веру Табе
І ўсё веру я для Цябе,
Усю надаею ў Табе маю,
За ўсё Цябе выхваляю.
Ты стварыў, Ты адкупіў,
Ты нас, Божэ, асьвяціў,
За то Табе, гдзе ёсць людзі,
Чэсць і слава ніхай будзе.
Табе, Божэ, кланяюся,
Ва ўсім на волю здаюся,
А быць толькі хачу у небе,
Па ўсе вякі славіць Цябе.
Жаль мне, Божэ: зграшыў Табе,
Праз грэх дастаў пекла сабе,
Ды не так жаль згубы маей,
Як жаль, Божэ, крыўды Тваей!
Ах, мой Божэ, Табе каюся,
Даруй віны, я папраўлюся;
Ды ўжо сто раз памерці волю,
На грэх болей не пазволю.
Для Твайго я ўспадабаньня
Хачу хаваць прыказаньня;
Жыць і ўмірацъ хачу ў Табе,
Бо ты ёсць добры сам у Сабе.

О Езусе, Ты наш Пане,
Сэрца нашаго каханьне!
Ручкі, ножкі Твае цалуем,
За грахі нашы жалуем.
Цалуючы Твае раны,
О, Езусе наш каханы,
Рукі і вочы к небу ўзносім,
Адпушчэньня грахоў просім.
Сьлёзы нашы выліваем,
Шчырым сэрцам прырэкаем:
Пакуль будзем з людзьмі жыці,
Ня будзем Богу грашыці.
О, Марыя, Матка Боска!
Прасьвятая кветка райска!
Маліся Богу за намі,
Нягоднымі грэшнікамі.
Усе сьвятые, ўзгляньце з неба!
Вашай ласкі нам патрэба;
Маліцеся Богу за намі,
Нягодными грэшнікамі.
Слава Богу праўдзіваму,
Слава ў Тройцы Ядынаму,
Слава Айцу, разам Сыну,
Слава і Духу Сьвятому.

### Песьня пра сьвятога Мікалая.

А хто, хто Мікалая любіць,
А хто, хто верна яму служыць,
Таму заўсёды сьвяты памагае,—
Ад Бога ласкі ён вымаляе.
Мікалаю!

А хто, хто да яго уцекае,
Яго на помач прыклікае,
Той ня будзе злоключоны,
А ад грахоў адрачоны.
Мікалаю!

А хто, хто сьпяшыць у яго доме
Маліць аб сьвятым яго пакрове;
Таму сьвяты у помач скоры,
Як на сушы, так на моры.
Мікалаю!

Мікалаю, слаўны ваевода,
Заступнік хрысьціянскаго роду,
Пакрывай нас шчытам веры,
Барані нас ад няверы,
Мікалаю!

Мікалаю, Божых тайніц страіцель,
Будзь нам ў нядолі пацяшыцель,
Сьцеражы нас грэхамі хворых,
Каб ня меў да нас прыступу вораг.
Мікалаю!

Мікалаю, Мірлікіеўскі вучыцель,
Хрысьціянскі прасьвяціцель,
Навучы нас Бога знаці,
Сьвятасць яго праслаўляці,
Мікалаю!

Мікалаю, пастыр добры стада,
Не пакінь нас без дагляду:
Пасі нас, оўцы непацешны,
Ды ўвядзі у ніву нябесны,
Мікалаю!

Мікалаю, нябесны жыхару,
Божы ў раю гаспадару,
Малі Бога, каб нам не прапасьці,
Барані нас ад благой напасьці,
Мікалаю!

Мікалаю, хрысьціянскі манаршэ,
Будзь над намі Ты найстаршы!
Спраўляй нашы ўсе паветы,
А нам жыцьця дай доўгі леты,
Мікалаю!

Мыж Цябе заўсёды выслаўляем:
Сьвятое Імя Твае вялічаем:
Будзь праслаўлен, Божы чэлавеку,
Сьвяты Мікалаю, аж да канца веку.
Мікалаю!

× **Прадажа рыбы.** У пятніцу, 17 жніўня, а ½9 гадз. раніцай на рыбным рынку будуць прадаваць дробную рыбу па 30 фэн за рас. фунт.

× **Спорт.** У нядзелю 18 жніўня, а 3 гадз. папал., у ваколіцах казацкіх казарм пры Лясной вуліцы адбудзецца спортовае сьвято, ў тым ліку перэправа цераз Вілью на кані і на чым папало.

× **Прапаўшый хлопец.** 12 чэрвеня прапаў вучэнь Пінхус Сьвечкін, 11 гадоў, с кватэры сваей пры Палтаўскай вуліцы 31, 2. С таго часу яго ніхто не бачыў. Весткі падаваць: Крымінальная Паліція, Домініканская 1, пакой 89.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 12—13 | + 24,0 | + 15,9 |
| 13—14 | + 25,3° | + 12,0° |
| 14—15 | + 24,0 | + 13° |

## З усяго Краю.

### Абарона ураджаю.

Глаўнакамандуючый на Усходзі выдаў загад аб абароне сёлетняго ураджаю ад мышэй, каторые летась зрабілі многа шкод. Навакол скірд і гумен трэба капаць равы, с каторых трэба кожын дзень выбіраць і нішчыць папаўшых туды мышэй. У равы трэба класьці атруту або мышыны тыфус, каторы можна даставаць у пачках за 1 м. 25 фэн. ў XII аддзеле Обэр Ост.

НЕМЕЖ. У начы з 11 на 12 жніўня с поля ўкралі чорную кабылу 15 гадоў, с кароткім хвастом і грывай.

МІТАВА. 15 жніўня тут пачынаецца курс дзеля падгатоўкі сясьцёр міласэрдзя. Прынімаюць асоб ад 18 да 55 гадоў. Курс безплатны.

## Афіцыяльны аддзел.

### Апавешчэньне.

П. Глаўнакамандуючый 10 арміі за мінулый месяц налажыў у этапных межах гэткую контрыбуцію на ніжэйпісаные грамады:

1. на грамады

| | | |
|---|---|---|
| Мілюнішкі I, | Оліц- | 700 м. |
| Мілюнішкі II | каго | 600 „ |
| і Поўле | пав. | 700 „ |

за тое, што жыхары гэтых грамад спагадліва аднасіліся да укрываўшыхся ў іх вёсках ўцёкшых ваенна-палонных, адкрыта прызывалі да неслухмянасьці загаду ваеннаго упраўленьня аб выдачы спажыўных прадуктоў Wirtschaftsausschuss'у, а ўрэшці памагалі у сумысным падпале дамоў сваіх старшым уцёкшыми ваенна-палонными.

2. на грамаду Лодзее, Сэйнэнс. пав., за тое, што ад канца жніўня 1916 г. да канца мая 1917 г. бывшый расейскі ваенны прабываў у грамадзе, і грамадзяне, ведаючы аб гэтым, не данясьлі у належнае мейсцо — 1.000 м.

3. на грамады

| | | |
|---|---|---|
| Рынголайцы, | Ковэдар- | 5.000 м. |
| Новаполе | скаго | 3.000 „ |
| Варкольцы | пав. | 3.000 „ |

за тое, што грамадзяне ведалі аб бытнасьці ўцёкшых ваенна-палонных у гаспадарцы Раманцэвіча, ў Рынголайцах, і не данясьлі аб гэтым у належнае мейсцо.

4. на грамаду Ясёнаво, Аўгустоўскаго пав., за тое, што грамадзяне памагалі расейскім ваеннапалонным уцекаць і перавезьлі іх цераз Бабёр, а іншые, ведаючы аб гэтым праступку, не данясьлі на вінавайцоў — 400 м.

Е. Н. О. 5 жніўня 1917 году.

Der Etappen-Inspekteur
z. m.
Heer,
Generalmaior.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

ШТОКГОЛЬМ. (В.Т.Б.). Орган рады раб. і салд. «Ізвестія» друкуе сэнсацыйные ведамасьці аб здарэньнях 16 і 18 ліпня, каторые, паводлуг слоў газэты, вызваў сам Керэнскій, каб гэтак дайсьці дыктатуры, што яму і ўдалося. Падробнасьці гэтай вялізарнай провокаціі апрацованы ім разам з англіцкім і француским пасламі.

Украінское бюро даносіць:

Керэнскій заявіў, што рады раб. і салд. усё болей губляюць сваю сілу с прычыны узросту павагі ураду. Керэнскій заявіў, што надалей урад ня будзе пытацца аб пагляды рады раб і с. як было дагэтуль.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Керэнскій у сваей новай адозве да расейскаго народу кажэ:

„Наступленьне ворагоў у момэнт, калі ў дзержаве нашай пануе безладзьдзе, грозіць руінай Расеі".

На гэта адказываецца, што яно пачатае войскам новай Расеі вызвало у адказ наступленьне Немеччыны і яе саюзьнікоў. Гэтак адказ за гэта падае на вінавайцоў расейскаго наступленьня.

ЛОНДОН. Расейскі ўрад заявіў англіцкаму, што, хаця тымчасовы ўрад ня лічыць магчымым забараніць расейскім дэлегатам ехаць у Штокгольм, аднак, ён глядзіць на конфэрэнцію, як на партыйную справу, і не прывязывае ніякай вагі да яе у справе свабоды урадовай палітыкі. Расейскі ўрад лічыць патрэбным заявіць аб гэтым, каб разбіць легенду, бытцым Расея асабліва падзержывае Штокгольмскую Конфэрэнцію.

БЭРН. Расейскіе газэты пішуць, што у Пецярбурзі адбылася дэмонстрацыя салдатоў старшых гадоў, каторые адмовіліся вярнуцца на фронт. Падобные дэмонстрацыі адбыліся такжэ ў Маскве і некаторых губэрскіх местох. «Бірж. Вед.» пішуць, што у Астрахані рух пачынае прынімаць небяспечны характэр.

Расейская газэта «Правда» вінаваціць вялікіх землеўласьнікоў і часць афіцэроў, апіраючыхся на некаторые часьці войск, у змове проці рэволюціі. Адзін землеўласьнік патрэбаваў развязкі рады раб. і салд. і вазначэньня за рэгента аднаго з вялікіх князёў. Была зроблена спроба украсьці з архіву адрачэньне ад трону цара Мікалая.

Украінское Прэсс-бюро даносіць, што ачыстка Пецярбурга энэргічна йдзе далей.

«Рэч» пішэ, што большэвікі пасьля сваей неудачы ў Пецярбурзі працуюць у арміі і ў правінціі.

АПАРАНДА. У Пецярбурзе адкрыўся агульна-расейскі з'езд большэвікоў і організацій інтэрнацыоналу. За пачэснаго маршалка выбран Ленін. З'езд прызнаў палітыку цэнтральнаго камітэту і паўстаньне 16—18 ліпня правільнымі.

Чуткі, бытцым Ленін і Зіновьев уцяклі заграніцу, аб'яўлены непраўдзівымі.

Аўстрыяцкі соцыаліст Баўэр, каторы ад 1914 гаду знаходзіўся ў расейскім палоне, запрошэн 12 жніўня на заседаньне рады раб. і салд. у Таўрыдзкім палацу.

ШТОКГОЛЬМ. Кронштадт мае гарнізон з 20.000 матросаў і салдатоў, каторые стаяць за большэвікоў. Тымчасовы ўрад устроіў блокаду Кронштадту і спадзяецца ўзяць яго пераз 4 ці 5 дзён.

БАЗЭЛЬ. Генэрал Корнілов, не атрымаўшы, ня гледзячы на чысьленные тэлеграфные просьбы, пацьверджэньня сьмяротных прысудоў, загадаў разстрэляць 34 расейскіх афіцэроў за дадзены імі салдатам прыказ адступіць. Тады некольні палкоў кінуліся на глаўную кватэру генэрала, каб штурмам здабыць яе і памсьціцца на Корнілове. Аднак, астаўшаеся верным войско забіло некольні сот іх і адагнало рэшту.

БЭРН. Нямецкае наступленьне вызвало панічную ўцечку жыхароў заходняй Расеі. Рух чыгункай спынен.

ЦУРЫХ. Паводлуг чутак, румынскі ўрад і заграничные пасли пры ім пакінулі Яссы і выехалі ў палудзенную Расею.

ЛОНДОН. «Times» даносіць, што толькі заграничные пасли пакінулі Яссы і выехалі ў Херсон, а кароль с сям'ёй астаюцца ў Яссах і маняецца пакінуць іх толькі ў крайний патрэбе.

БЭРН. «Бірж. Вед.» пішуць, што міністэр таргоўлі і прамышленасьці звярнуўся с цыркулярам да ўсіх урадаў, местовых упраў і земств, адзначываючы поўную негатоўнасць Расеі да міра: у прыпадку замірэньня Расея не здалее зразу прыспасобіцца да мірнаго часу. Міністэр загадывае загадзя апрацаваць пляны пераходу да мірнай гаспадаркі.

«Русск. Сл.» пішэ, што жыцьцё бывшай царыцы—ў небяспечным стане. У яе апухлі ногі, і яна хвора на сэрцэ.

КІЕУ. 110 арэштантоў вырваліся с турмы і пачалі рабаваць места. Аружнай сілай іх задзержалі.

## З усяго сьвету.

МАДРЫД. (В.Т.Б.). У Вальядолідзе работніцкіе выступленьня разганяла паліція. Выяўляецца рух у Більбао. У Леоне аружные сілы разагналі забастоўшчыкоў, каторые хацелі ўварвацца на вагзал.

МАДРЫД (Гавас). З розных мейсц даносяць аб гвалтах, шыбка супакоеных войскам. За цэнтр рэ-

### А Сьвятой Варвары.

Усхадзіла зара залатая са сіняго мора,
Разсцілала агнявые шаты на ўсход сонца,
Раскідала залатые пер'я па сіняму небу.
А былаж-то не зара залатая,
А была-ж то Варвара сьвятая.
Як з'явілась людзям, паказалась,
Дзіву дэўся ўвесь народ хрышчоны.
Вялеў пан Кроль срэбра, злота браці,
А сьвятой Варвары дарункі даваці.
Сьвятая Варвара срэбра, злота не брала
С панам-Кролям ветлай не стала.
Вялеў пан-Кроль слугам агонь паліць,
На сьвятую Варвару алей варыць.
Сьвятая Варвара вельмі зляклась,
Перад Вышнім Богам так азвалася:
— „А Госпад Божэ, стань на парукі,
„Не дай цярпеці непавіннай мукі!"
Паслаў Госпад трох анёлаў з неба,
— „Ня бойся Варвара, Бог кажэ,—так трэба!"
Сьвятая Варвара ў алею кіпела,
С катла ясным зрокам ня сьвет глядзела.
Сказаў пан-Кроль да сьвятой Варвары:
— „Пашукаю табе ешчэ большай кары."
Вялеў пан-Кроль слугам склеп муравацъ,
Сьвятую Варвару жывую схаваць.
Тые слугі склеп узмуравалі,
Сьвятую Варвару ў тым склепі схавалі.
Як паехаў пан-Кроль на вайну,
І быў пан-Кроль тры гады на вайне.
Потым таго з вайны вараціўся,
На цісову ложу спаць палажыўсь.
Ва сьне бачыць, што Варвара жыва,
Пякнейшая панна, як перш таго была.
Вялеў Кроль склеп разбіраці,
Сьвятую Варвару аттуль даставаці.
Прыняліся слугі той склеп раскідаці,
Сьвятую Варвару жывую засталі.
Пасьля таго слугі вельмі здзівавалі
І сьвятой Варвары паклоны ўсе клалі:
„Ах, Кролю, пане, ёсць Варвара жыва,
„Пякнейша панна, як перш таго была!"
— „Слугі, мае слугі, няверна служылі:
— „Сьвятую Варвару ўпотай карміліі!"
Вялеў пан-Кроль стоўп муравацi,
Для сьвятой Варвары ката шукаці.
Толькі той кат мячом узмахнуўся
Аж ударыў пярун і ката не стала,
А Варвара слаўна па ўсім сьвеці стала.

волюцыі ізноў служыць Барцэлёна. Забіты 5 асоб, ранены 9. Ваенны губэрнатар заявіў, што ён не дапусьціць разруху.

МАДРЫД. (Рэўтэр) Правіцельство пастанавіло аб'явіць ва ўсей старане асаднае палажэньне. Работнікі кідаюць работу і ідуць дамоў. З розных мейсц даносяць аб гвалтах.

ЛЮГАНО У апошнім часі выяўляецца узрост рэспубліканскаго руху ў Італіі. Радыкальная партыя закупіла газэту «La Sera».

Джіолітті сказаў прамову, кажучы аб патрэбе парупіцца, каб гэта вайна была апошняй. Тайнай дыплёмацыі і тайных умоў болей быць не павінно. Наагул, увесь лад у народаў павінен быць пабудован на новых асновах.

БАЗЭЛЬ. (Стэфані). «Messagero» даносіць, што Сьвяты Пасад паслаў усім ваюючым дзержавам дыплёматычную ноту с падробнымі конкрэтнымі мірнымі прэдлажэньнямі. Кіраўнічая думка ноты—пераконаньне, што мір павінен быць аснован на праве, а не на сіле. Далей гаворыцца аб свабодзі на морах, палюбоўным судзе і адрачэньні ад контрыбуціі. Прэдлагаецца ачысьціць і адбудаваць Бэльгію і вярнуць Францыі занятые абшары, а Нямеччыне — яе колоніі. Аб усходзі і Балканах гаворыцца мала.

ЦУРЫХ. Італьянскі урад паведаміў Папежа, што кожнае мірнае выступленьне яго будзе разгледацца, як выступленьне проці Італіі, каторая болей ня можэ забасьпечыць ненарушымасьці папескаго трону.

ЛОНДОН. Ллойд Джорджэ сказаў у Ніжняй Палаці, што расейскі урад не адказывае за штокгольмскую конфэрэнцію. Расеі ня будзе зроблена услуга згодай на штокгольмскую конфэрэнцію.

ШТОКГОЛЬМ. Тут ходзяць чуткі, што Керэнскій ужо ў канцы ліпня зрабіў з англіцкім урадам умову аб кроках дзеля разбіцьця штокгольмскай конфэрэнціі.

Англіцкіе газэты пішуць, што конфэрэнція павінна адбыцца не ў Штокгольме, а у Хрысьціяніі, ці іншым норвэжскім горадзі, што швэдзкае грамадзянство—староннае і стаіць на старане Нямеччыны.

ЛОНДОН. Міністэр-прэзыдэнт Аўстраліі тэлеграмай пратэставаў проці ўчасьця Англіі ў Штокгольмскай конфэрэнціі, бо гэта конфэрэнція будзе шкодзіць далейшай вайне і яе пабеднаму канцу.

ЛОНДОН. Работніцкая конфэрэнція прыняла рэзолюцію выказываючы свой жаль с прычыны забароны ўраду ехаць англіцкім дэлегатам у Штокгольм.

«Daily News» даносіць, што англіцкі урад ужо 2 жніўня пастанавіў не даваць пашпартоў у Штокгольм.

ЛОНДОН. (Рэйтэр). Офіцыяльна апавешчаецца, што ад работнікоў на мейсцо Гэндэрсона паступае за міністра працы Барнс.

Бонар Лоў сказаў у Ніжняй Палаце, што англіцкім падданым забараняецца мець зносіны з варожымі падданымі, і з гэтай прычыны нікому ня можэ быць дадзено пазваленьне на падарожу у Штокгольм.

Злучаные Штаты, Францыя і Італія, с каторымі англіцкі урад радзіўся аб гэтым, пастанавілі зрабіць тое самае.

З англіцкіх касьцельных кругоў даносяць, што англіцкі урад пасьля вайны возьме назад свайго пасла з Ватыкану. Ірляндцы дамагаюцца права мець свайго прэдстаўніка у Папежа.

ПАРЫЖ. Прэдстаўнікі соцыялістычнай партыі Францыі прынялі рэзолюцію, у каторай гаворыцца:

„Французская соцыялістычная партыя едзе у Штокгольм заявіць, што трывалы мір магчымы пры пашане міжнароднаго права, пашане умоў і абавязку ў будучыне аддаваць усе спорные справы угодліваму суду. Усе урады, на каторых ляжыць адказ за пачатак вайны і звязаные з ей гвалты, павінны быць асуджэны. Пасьля трэба выступіць проці гэтых урадоў, каб палажыць канец вайне. На конфэрэнціі павінны быць дэпутаты, упаўнамочэные інтэрнацыоналам, — значыць, партыямі і корпорацыямі, каторые маюць права пасылаць сваіх прэдстаўнікоў на інтэрнацыональные конгрэссы.

ЛОНДОН. «Daily News» пішэ: Калі работніцкая конфэрэнція 21 жніўня выскажэцца за б. міністра працы, Гэндэрсона, дык і іншые міністры—члены работніцкай партыі прымушэны будуць выйсьці у адстаўку. Тады прэм'ер міністэр распусьціць Ніжнюю Палату і загадае новые выбары.

ЛЮГАНО. У дзень французскаго нацыональнаго сьвята прэзыдэнта Пуанкарэ на парадзе у Лонгшан высьвісталі. Гэтымі днямі ждуць важных прыпадкоў.

ВАШЫНГТОН. Урад не дасць пашпартоў дэлегатам на штокгольмскую конфэрэнцію, лічучы яе за несвоечасную.

ЛОНДОН. Дзеля кантролю над амэрыканскім прэзыдэнтам, Вільсонам, сэнат маніцца назначыць «раду дзесяці» с 5 сэнатароў і 5 дэпутатоў.

ЛЮГАНО. Пры двох дэпутатах расейскай рады раб. і салд. соцыялістычная местовая дума наладзіла офіцыяльна працэсію і народны мітынг, на каторам чысьленые прамоўцы гаварылі за мір.

БЭРЛІН. Аўстрыяцкі міністэр загранічных спраў, гр. Чэрнін, прыбыў у нямецкую главную кватэру і адбыў нараду з імперскім канцлерам і статс сэкрэтаром да загранічных спраў. Перагаворы між імі будуць далей адбывацца ў Бэрліне.

БЭРЛІН. Ваеннае міністэрство запрасіло прэдстаўнікоў работнікоў з ваенных фабрык аб'ехаць фронты дзеля знаёмства з ваеннымі патрэбамі.

СОФІЯ. 13 жніўня мінуло 30 гадоў панаваньня пара Фэрдынанда.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

### 14.VIII. Заходні тэатр:

Прыгатаўляюцца сільные атакі злучэных ворагоў.

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На фронці Фляндры—артылерыйская бітва с пераменнай сілай. На Ipры яна ізноў дайшла вялікай сілы. У Артуа, наабапол Ленс і ля Скарп баевая чыннасць узмацавалася.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На фронці Эн і ў заходняй Шампані агонь артылерыі значна крапчэў. На паўночным фронці Вэрдэну артылерыя з абодвых бакоў падтрымлівала сільны агонь. Французы сабралі тут ізноў вялікіе сілы, асабліва многа артылерыі.

Збіты 9 самалётаў і 2 лятучые шары.

### Усходні тэатр:

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* На поўначы ад адрэзку Тротусуля, на поўдні ад далін Ойтоса і Касіну ворагі вялі вострые атакі, каторые усе адбіты.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* Пры Панчіо—новые бітвы, у каторых ворагі у крывавых контратаках мелі вялікіе страты. Між далінамі Сусіта і Путны мы адкінулі упорна бараніўшыхся ворагоў на паўночны заход.

### 15.VIII. Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* Крапчэйшая чыннасць нашай артылерыі у Фляндрыі стрымлівала ніштучны агонь ворагоў. У вечары ворагі пачалі ізноў с поўнай сілай артылерыйскую бітву, каторая не слабеючы трывала ўсю ноч. На поўдні ад Фрэзэнбэрга і наабапол Гог адбіты вострые наступленьня англічан. У Артуа артылерыйская бітва крапчэла між Іліш і Ленс.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пры Шмэн дэ Дам адбіты ля Сэрні чысьленые атакі французоў. На усім фронці ў Шампані ажывіліся бітвы артылерыі. Наабапол Маасу крапчэў агонь артылерыі; момэнтамі ён даходзіў ураганнай сілы

Нашы баевые лятуны атакавалі акопы і батарэі. У бітвах на паветры і стрэламі з зямлі мы збілі ўчора 20 варожых лятуноў і 4 прывязные шары.

### Усходні тэатр:

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Між паўночным Сэрэтам і Збручам агонь узмацаваўся. На палудзенным усходзі адбіты расейскіе атакі с панцырнымі самаходамі.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* На поўдні ад даліны Тротусуля ворагі сільнымі атакамі прыкрывалі адступленьне 2 румынскай і 4 расейскай арміі. Усе атакі адбіты. Нашы войскі перайшлі на другі бераг Савэі.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* Нашы колонны гоняць ворагоў, адступаючых наабапол Путны на паўночны заход. На паўночным заходзі ад Панчіо узяты Стракані. У даліне Сэрэта расейскіе дывізіі здабылі упорна бараніўшыеся мастовые пазыціі Балтарэту. Расейцы і румыны апрыч крывавых страт утрацілі 3.000 палоннымі, некалькі гармат і шмат кулямётаў.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

ЛОНДОН. (*урадова*). 20 варожых самалётаў атакавалі Саўзэнд і Маргет. У Саўзэндзі зроблены значные шкоды.

БЭРЛІН. Варожы самалёт скінуў 5 бомб на Франкфурт на Майне. Забіты 2 мужчын, 1 кабета і дзіця, цяжка ранены 12 асоб.

Нашы лятуны збілі варожы самалёт і узялі французскіх лятуноў у палон.

ВЕНА. 14 жніўня нашы лятучые эскадры атакавалі Вэнэцію і скінулі 4000 кілогр. бомб. Адзін марскі самалёт і два сухапутные не вярнуліся.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Сяродземным моры ізноў затоплено падводнымі лодкамі больш за 50,000 тон.

ЦЮРЫХ. „Tages Anzeiger“ даносіць, што французская армія с Салонік перавезена ў палудзенную Італію, а адтуль перавозіцца на французскі фронт. Тудыж перавозяць і італьянскае войско.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Адна з нашых падводных лодак ізноў затапіла ў Атлянтыцкім акіане і Біскайскай затоцы 29,000 тонн.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар Язэп Салавей.